наша свабода

№105(192) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

26 ВЕРАСНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Помста ахвярам Курапатаў



● Курапацкія магілкі ахвяраў генацыду хутка пакрые асфальт. Працяг тэмы на стар.5

## Праз месяц — працэс «па Завадскім»

Разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да былога афіцэра спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча і яшчэ трох чалавек, абвінавачваемых, у прыватнасці, у выкраданні 7 ліпеня 2000 года аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, распачнецца ў Мінскім абласным судзе 24 кастрычніка. Старшынстваваць на працэсе будзе суддзя Аляксандр Сіманаў. Слуханне справы пройдзе ў закрытым судовым пасяджэнні. Як заявіў у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН старшыня абласнога суда Георгій Хоміч, гэта зроблена з мэтай «абароны пацярпелых і іншых асобаў».

На думку сваякоў Дзмітрыя Завадскага, матэрыялы справы, з якой яны азнаёміліся, на іх погляд, ускосна сведчаць, што Дзмітрый стаў ахвярай старанна спланаванай і прафесійна ажыццёўленай акцыі, а не звычайнага крымінальнага злачынства.

Былы афіцэр спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерый Ігнатовіч, баец гэтага ж спецпадраздзялення Максім Малік, былы курсант акадэміі міліцыі Аляксей Гуз і непрацуючы, раней двойчы судзімы Сяргей Савушкін у сукупнасці абвінавачваюцца ва ўчыненні сямі наўмысных забойстваў, пяці ўзброеных нападаў на грамадзянаў, двух выкраданнях людзей і шэрагу іншых цяжкіх злачынстваў. Паводле звестак БелаПАН, віны сваёй яны не прызнаюць.

Генадзь БАРБАРЫЧ

РАТАЦЫІ

## Савет міністраў амаль не пацярпеў

24 верасня прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў шэраг кадравых указаў. Як раней паведамляў БелаПАН, прызначаны чатыры віцэ-прэм'еры:

- Уладзімір Дражын, былы першы намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама. На новай пасадзе ён будзе курыраваць сацыяльную сферу, навуку і гандаль;
- Аляксандр Папкоў, які раней займаў пасаду віцэ-прэм'ера. Ён будзе курыраваць аграпрамысловы комплекс;
- Андрэй Кабякоў, таксама былы віцэ-прэм'ер, які адказвае за сферу эканомікі;
- Сяргей Сідорскі, які раней займаў пасаду першага намесніка старшыні Гомельскага аблвыканкама. У новым складзе ўрада будзе курыраваць пытанні прамысловасці і будаўніцтва.

Згодна з указам прэзідэнта, свае пасады ў новым урадзе захавалі большасць міністраў. Сярод іх міністры: фінансаў - Мікалай Корбут, эканомікі - Уладзімір Шымаў, замежных спраў - Міхаіл Хвастоў, сельскай гаспадаркі і харчавання - Міхаіл Русы, унутраных спраў - Уладзімір Навумаў, абароны - Леанід Мальцаў, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя - Лявонці Харужык, сувязі - Уладзімір Ганчарэнка, статыстыкі і аналізу - Уладзімір Зіноўскі, спорту і турызму - Яўген Ворсін, культуры - Леанід Гуляка, па надзвычайных сітуацыях - Валерый Астапаў, прамысловасці - Анатоль Харлап, архітэктуры і будаўніцтва - Генадзь Курачкін, жыллёва-камунальнай гаспадаркі - Аляксандр Мількота, а таксама старшыні Дзяржаўнага камітэта пагранвойскаў Аляксандр Паўлоўскі і Дзяржкамітэта па авіяцыі Фёдар Іваноў.

Дзяржаўны падатковы камітэт пераўтвораны ў міністэрства па падатках і зборах.

Заканчэнне на стар.3

# Прызначаны распродаж Беларусі

*Аляксандр Лукашэнка, удзячны Расіі за фінансавую падтрымку свайго рэжыму, абяцае буйны распродаж Беларусі. У панядзелак ён паведаміў журналістам, што як толькі будзе сфармаваны новы ўрад, г. зн. да канца гэтага тыдня, дык адразу пачнецца прыватызацыя «некаторых прадпрыемстваў».*

«Да нашых прадпрыемстваў вострую цікавасць мае не толькі расійскі капітал, але і міжнародныя буйныя кампаніі і карпарацыі, іншыя заходнія дзяржавы, — сказаў А.Лукашэнка. — Я адчуваю, як пасля выбараў ідзе вельмі моцная канкурэнцыя за права інвеставаць у нашу эканоміку грашовыя сродкі. Мы вытрымалі паўзу, яна нам не проста далася, мы не распрадалі сваю маёмасць, дзяржаўную ўласнасць. Усе прадпрыемствы функцыянуюць. Гэта ж не тое, што прадаваць, акцыяніраваць ці прыватызаваць непрацуючыя прадпрыемствы і прадпрыемствы, якія сёння выпускаюць добрую прадукцыю. Розніца ёсць. Таму, вядома, цікавасць і з боку заходніх краінаў, і з боку расійскага капіталу да нашых прадпрыемстваў ёсць».

«Заходнія краіны», хутчэй за ўсё, тут узгаданыя проста для антуражу. «Акцыянаванне» па Лукашэнку – гэта непазбежная расплата з Расіяй тымі нешматлікімі беларускімі прадпрыемствамі, якія яшчэ нейкім чынам працуюць і якія могуць прадстаўляць інтарэс для драпежнага расійскага капіталу.

НАША СВАБОДА не аднойчы ўжо ўзгадвала, як Расія плануе манапалізаваць Беларусь. Як вядома, на цырымоніі інаўгурацыі новага «прэзідэнта» прысутнічалі кіраўнікі кампаніяў «Газпром», «Славнефть», «ИТЕРА», «Лукойл». Усе яны прэтэндуюць на кавалак беларускай маёмасці, натуральна, самы найлепшы кавалак.

Яшчэ да прэзідэнцкіх выбараў прэзідэнт кампаніі «Лукойл» Вагіт Алякпераў заявіў, што плануе інвеставаць у Беларусь 1 мільярд долараў. Асабліва падабаецца канцэрну наваполацкія «Нафтан» і «Палімір». Расійска-беларуская «Славнефть» таксама мае вялікія планы на нашу краіну, у прыватнасці, на тыя ж наваполацкія «далікатэсы».

Эксперты чакаюць, што пасля «прыватызацыі па-лукашэнкаўску» Беларусь пазбавіцца гігантаў нафтахімічнай прамысловасці. У якасці трафеяў расійскія алігархі атрымаюць кантроль над Мазырскім НПЗ, гарадзенскім ВА «Азот», магілёўскім «Хімвалакно», МТЗ, «Беларуськаліем» і г.д.

З іншага боку, «Сибирский алюминий» ужо заканчвае набыццё МАЗа. Піўная «Балтика» набывае «Крыніцу». На рынак мабільнай сувязі чакаецца прыход маскоўскай кампаніі МТС...

«Уся прыватызацыя пройдзе выключна ў інтарэсах нашага народа, выключна ў інтарэсах працоўных калектываў, якія там працуюць. Інтарэсы людзей павінны быць захаваныя», — заявіў Лукашэнка.

Заканчэнне на стар.3

# Папа приехать к батьке не может

## *При нынешней власти Папа Римский в Беларусь не приедет*

*Очередное появление Папы Римского Иоанна Павла II на постсоветском пространстве вновь привлекло внимание к взаимоотношениям двух крупнейших христианских церквей.*

Следует отметить, что до нынешнего своего визита в Казахстан, имевшего государственный статус, глава Ватикана посещал страны Балтии, Грузию и Украину.

Московский патриархат Русской православной церкви бдительно следит за активностью Ватикана на своей, так называемой канонической, территории. Известно, какую бурную реакцию вызвал летний визит Папы в Украину, названный патриархом Алексием II «несвоевременным». Стоит вспомнить, что эта негативная реакция ретранслировалась и с территории Беларуси, власти которой разделяют тревожное отношение к пасторской деятельности католической церкви на постсоветском пространстве.

Об этом, к примеру, Лукашенко говорил патриарху в Бресте во время его последнего посещения Беларуси, призывая владыку, которого он назвал своим другом, не обращать внимания на тех политиков, которые позволили Папе приехать в Украину.

Понятно, что имелись в виду славянский президент Леонид Кучма и некоторые другие украинские руководители. В общем, наблюдалось полное единство позиции с Москвой, которая в лице Путина решила не подтверждать приглашений Папе посетить Россию, сделанных в свое время президентами Горбачевым и Ельциным. Однако, в Минске не всегда так думали.

Еще в первые годы своего президентства Лукашенко мечтал сделать Беларусь местом, где могли бы встретиться и замириться после тысячелетнего разлада главы двух христианских церквей. Говорят, что сей глобальный план был предложен тогдашним первым замминистра иностранных дел, а ныне послом Беларуси в Вашингтоне Валерием Цепкало. При этом, аргументы в пользу проведения такого мероприятия на территории Беларуси приводились довольно здравые: отсутствие межконфессиональных конфликтов, заметное влияние католической церкви при монополии православной, да и пресловутый геополитический фактор, позволяющий быть Беларуси на виду.

Заканчэнне на стар.3

## Скарга на Цэнтрвыбаркам

Беларускі Хельсінкскі камітэт накіраваў у Вярхоўны суд скаргу на пастанову Цэнтрвыбаркама аб выніках выбараў прэзідэнта Беларусі. Тэкст скаргі разам з дадаткамі складае больш за 1.000 старонак. У ім адзначаюцца шматлікія парушэнні выбарчага заканадаўства. БХК просіць узбудзіць па гэтай скарзе крымінальную справу і прызнаць прэзідэнцкія выбары ў Беларусі несапраўднымі.

## Асуджэнне ціску на СМІ

Камітэт у абарону журналістаў асудзіў ціск на незалежныя сродкі масавай інфармацыі з боку беларускіх уладаў падчас нядаўніх прэзідэнцкіх выбараў. Сярод іншага гэтая міжнародная арганізацыя згадвае выпадкі канфіскацыяў накладаў і тэхнічнага абсталявання газет і тое, што 9 верасня былі заблакаваныя інтэрнэт-старонкі шэрагу недзяржаўных СМІ.

## Кошты сталі расці шпарчэй

У Беларусі назіраецца павелічэнне тэмпаў інфляцыі. Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі і аналізу, за першыя два тыдні верасня рост спажывецкіх коштаў у краіне склаў 0,8% (па 0,4% на кожны). Для параўнання за два тыдні жніўня кошты ўзраслі на 0,5%, а на 0,8% – за ўвесь месяц.

## Замаразкі: ратуйце ўраджай!

Уначы з 26 па 27 верасня замаразкі чакаюцца на пераважнай частцы тэрыторыі Беларусі. Тэмпература паветра знізіцца да «мінус 3 градусаў». Пасля такога паведамлення з Рэспубліканскага гідраметцэнтра, у сельскай гаспадарцы і дачнікі мусяць паспешліва збіраць астатні ўраджай і не пакідаць пад адкрытым небам ужо сабранае.

## Студэнтаў паболела

Сёлета студэнтамі дзяржаўных ВНУ сталі 58 тысяч чалавек, што звыш тысячы болей, чымсьці летась. У недзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы на першы курс паступілі 11,4 тысячы маладых людзей, што на 700 чалавек болей, чым у мінулым годзе.

## Недакуплены маладняк

За 8 месяцаў гэтага года сельскагаспадарчыя прадпрыемствы закупілі ў насельніцтва 167 тысяч галоваў маладняку буйной рагатай жывёлы. Гэта толькі 70% ад таго, што было запланавана.

НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1500

 

## Ганчарык у апошняй інстанцыі

24 верасня старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ), адзіны кандыдат у прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзімір Ганчарык накіраваў у Вярхоўны суд Беларусі поўны варыянт скаргі аб парушэннях выбарчага заканадаўства падчас прэзідэнцкіх выбараў.

Як паведаміў БелаПАН юрыст перадвыбарчага штаба Ганчарыка Сяргей Альфер, гэты дакумент у прынцыпе адпавядае заяве, якая была накіраваная Ганчарыкам у Цэнтрвыбаркам 10 верасня, на наступны дзень пасля выбараў. Разам з тым ён значна пашыраны за кошт пераліку фактаў парушэнняў выбарчага заканадаўства, а таксама інфармацыйных і сацыялагічных матэрыялаў.

Як вынікае з пададзенай у Вярхоўны суд скаргі, «абвешчаныя вынікі галасавання не маюць нічога агульнага з рэальным волевыяўленнем народа. Назіральнікі зафіксавалі тысячы парушэнняў, пачынаючы з недапушчэння ў склад выбарчых камісіяў прадстаўнікоў палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў, выкарыстоўвання дзяржаўных газет, радыё і тэлебачання для агітацыі на карысць аднаго кандыдата і да ачарнення іншых і заканчваючы масавай падменай бюлетэняў для галасавання».

Як зазначыў Сяргей Альфер, Вярхоўны суд — гэта найвышэйшая інстанцыя ў Беларусі, дзе можна аспрэчыць тое ці іншае рашэнне; далей застаецца толькі міжнародны ўзровень.

**Ірына ЛЕЎШЫНА**

СМІ

## «Пагоню» папярэдзілі

У панядзелак, 24 верасня, галоўны рэдактар газеты «Пагоня» М.Маркевіч наведаў старшыню Гродзенскага аблвыканкама К.Саўчанку. Журналіст паспрабаваў давесці, што газету несправядліва пераследуюць. Абласны начальнік адказаў сцісла: ідзіце і працуйце далей. Сустрэча працягвалася паўтары хвіліны.

22 верасня М.Маркевіча тэрмінова выклікалі ў абласную пракуратуру, каб уручыць папярэджанне. Яно датычыць дзвюх нататак у 36 нумары газеты, у якіх следчыя ўбачылі паклёп на прэзідэнта. З прычыны гэтых нататак была заведзеная крымінальная справа супраць газеты. Пракуратура канфіскавала таксама наступны нумар «Пагоні». Апошні — 38, праўда, выйшаў. Журналісты незалежных выданняў нават хадзілі дзяжурыць каля друкарні, каб папярэдзіць магчымую чарговую канфіскацыю. Як вядома, абодва разы следчыя арыштоўвалі тыражы газеты непасрэдна каля друкарскага варштата.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Канфіскаваны Пазьняк

24 верасня беларускія памежнікі ў Брэсце канфіскавалі 50 асобнікаў часопіса «Беларускія ведамасці» і дзве кніжкі з вершамі і фотаздымкамі Зянона Пазьняка «Глёрыя Патрыя» ў Мікалая Анцыповіча, актывіста сойму Кансерватыўна-хрысціянскай партыі-БНФ.

Як паведаміў БелаПАН прэссакратар партыі Валерый Буйвал, сп. Анцыповіч вяртаўся ў Беларусь з Варшавы, дзе ён наведваў Зянона Пазьняка, які апошнія 5 гадоў знаходзіцца ў эміграцыі. «Беларускія ведамасці» — часопіс, які выдае сп. Пазьняк.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам БелаПАН, лідэр Кансерватыўна-хрысціянскай партыі-БНФ сказаў, што ён быў крыху здзіўлены тым, што кніжка з ягонымі вершамі і фотаздымкамі трапіла ў спіс літаратуры, «не подлежащей перевозу» праз мяжу, пра што памежнікі заявілі сп. Анцыповічу. «Я думаю, яны проста распачалі паляваць на маё імя», — сказаў сп. Пазьняк.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ**

ДАТА

## Мемарыял, які мог быць лепшым

25 верасня споўнілася 30 гадоў з дня адкрыцця мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой».

Самы буйны ў былым СССР мемарыял быў створаны ў рэкордныя тэрміны — за два няпоўныя гады. Узводзілі яго паводле ініцыятывы першага сакратара Камуністычнай партыі Беларусі Пятра Машэрава. На конкурс было пададзена каля трох сотень праектаў. Як успамінае былы навуковы супрацоўнік мемарыяльнага комплексу Тацяна Хотцава, некаторыя з іх былі вельмі цікавыя. У прыватнасці, меркавалася стварыць комплекс за межамі крэпасці, а самі руіны законсерваваць. У выніку аўтарскі калектыў узначаліў лаўрэат Ленінскай прэміі Аляксандр Кібальнікаў. Прапанаваны ім праект быў ажыццёўлены не поўнасцю, таму што затраты перавысілі планаваныя, і адбыліся некаторыя змяненні ва ўнутранай палітыцы дзяржавы.

Не толькі сярод жыхароў Брэста, але і сярод музейных работнікаў пануе меркаванне, што ідэя стварэння мемарыялу ўвасоблена няўдала. Штучныя збудаванні «задавілі» саму крэпасць, неапраўдана знесеная частка Белага палаца і іншыя крапасныя збудаванні. За межамі мемарыялу застаўся манастыр бернардзінак — адзіная захаваная ў Брэсце пабудова 17-18 стагоддзяў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

ПОМНІКІ

## Адрамантавалі капліцу каліноўцаў

Ніколі не шанаваная пры панаванні камуністычнай ідэалогіі мемарыяльная капліца на месцы Мілавідаўскай бітвы — адной з буйнейшых у Беларусі ў часе паўстання 1863-64 гг. — і да апошняга часу працягвала разбурацца.

З чатырох калонаў абсыпалася тынкоўка, іржавым стала пакрыццё сферычнага гранёнага купала, а ў арачных прасценках вышчарбілася цэгла. Нядаўна з філонгаў цокаля і пастамента зніклі дзве бронзавыя пліты з надпісамі на польскай мове, якія былі тут з моманту заснавання капліцы ў 1933 годзе. Так і не адшуканыя вандалы скралі таксама пліту з надпісам па-беларуску на валуне побач. А з пазней устаноўленага праз дарогу насупраць капліцы праваслаўнага помніка была выдрана бронзавая выява Укрыжавання цела Хрыстова. Словам, святое месца, дзе пахаваныя ахвяры жорсткай сечы паўстанцкіх атрадаў Кастуся Каліноўскага з перавышаючай іх колькасцю царскіх карнікаў, апынулася на мяжы зруйнавання.

Але дзякуй за свядомасць калектыву дарожнікаў Івацэвіцкага ДЭУ-23 і СПМК-3 Баранавіцкага раёна. Сумесна будаўнікі адрамантавалі пашкоджанні на мемарыяльнай капліцы каліноўцам, пафарбавалі яе ў белы колер, добраўпарадкавалі тэрыторыю. Ну а калі даверваць словам супрацоўніка Баранавіцкага райвыканкама Міхаіла Барысевіча, які ў адказе за мясцовыя гістарычныя помнікі, то на капліцы будуць замацаваныя новыя пліты з тэкстамі ранейшых надпісаў аб вечнай памяці пра нескароную мужнасць змагароў за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны.

**Галіна БАРАВАЯ**

ЛЮСТРАФАКТ



У Беларусі лепш у паветры, чым на зямлі

## Выстава абразоў з Кіева-Пячорскай лаўры

5 кастрычніка ў галерэі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі адкрыецца выстава абразоў 15-18 стагоддзяў, прывезеных з Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка «Кіева-Пячорская лаўра» і Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Украіны. Пабачыць іх можна будзе і яшчэ раней — 3 кастрычніка, калі ў музеі будзе праводзіцца канцэрт хрысціянскай духоўнай музыкі.

Ініцыятарам правядзення выставы стаў украінскі бок. Ва Украіне сёлета адзначалі 950-гадовы юбілей заснавання Кіева-Пячорскай лаўры і з гэтай нагоды арганізоўваюць азнаямляльныя туры з каштоўнымі гістарычнымі набыткамі па суседніх краінах. Тым больш гэта гісторыя ў тым ліку і беларускага народа. Цэлы шэраг гэтых абразоў апісаны ў Вялікім княстве Літоўскім.

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі на працягу двух месяцаў будуць выстаўляцца 50 старажытных абразоў. Сярод іх можна будзе пабачыць і спіс 17 стагоддзя з галоўнага абраза Кіева-Пячорскай лаўры — «Успенне Боскай Маці». Па легендзе вобраз Боскай Маці з'явіўся да грэчаскага мастака Аліпія ў сне, з яго ён і напісаў абраз, які славіўся сваёй цудадзейнасцю і абараняў лаўру ад напасцяў.

**Алена ЛАБАНАВА**

## Самая пітушчая — Магілёўшчына

З пачатку года ў Магілёўскай вобласці работнікамі праваахоўных органаў выяўлена і спынена каля 2 тысяч фактаў самагонаварэння. Удалося канфіскаваць больш за 200 самагонных апаратаў, знішчыць каля 12 тысяч літраў самаробнай брагі і 2,5 тысячы літраў сівухі.

Паводле звестак статыстыкі, за 7 месяцаў 2001 года спажыванне спіртнога на кожнага жыхара Магілёўшчыны склала 30 літраў — гэта самы высокі паказчык сярод усіх абласцей краіны. Асноўнымі вытворцамі спіртных вырабаў на тэрыторыі вобласці з'яўляецца Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод. Прадпрыемства звездае цяжкасці са збытам прадукцыі: зараз на захоўванні тут знаходзіцца каля 69 тысяч дэкалітраў гарэлкі, якія так і не знайшлі свайго пакупніка. На заводзе рыхтуюцца адкрыць лінію па вытворчасці каньячных вырабаў.

**Канстанцін УВАРАЎ**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Разбітая «Масква»

На раздзяляльнай паласе Маскоўскай шашы ў Брэсце ад наезду аўтамашынай разбіты чырвоны знак з надпісам «Масква» і выявай «залатой» пяцікутнай зоркі. Ніхто не прыбірае пашкоджаную да пачварнага выгляду архітэктурную форму ўжо цягам тыдня, што дае падставы для шматлікіх з'едлівых чутак у горадзе. Насельніцтва яшчэ памятае, як аўральным чынам рамантавалі гэты кавалак галоўнай вуліцы і дабудоўвалі паблізу царкву да сустрэчы А.Лукашэнкі і маскоўскага патрыярха Аляксія II. Матэрыяльныя затраты на паказуху аказаліся настолькі спустачальнымі для гарадскога бюджэту, што зараз не хапае мізэру сродкаў, каб аднавіць «разбомбленую» Маскву ў чарадзе вулічных сімвалаў гарадоў-герояў.

**Галіна БАРАВАЯ**

ЗДАРЭННІ

## Літовец параніў СОБРаўца

Вечарам 21 верасня ў Мінску быў цяжка паранены супрацоўнік зводнага атрада хуткага рэагавання ваеннай часці № 3214 (СОБР) міністэрства ўнутраных спраў Беларусі. Гэта адбылося ў 20.40, у адной з кватэраў па вуліцы Берута, дзе супрацоўнікамі Мінскага РАУС і СОБРа быў выяўлены адшукваемы па падазрэнні ва ўчыненні разбойніцкага нападу, раней судзімы грамадзянін Літоўскай Рэспублікі, жыхар Друскінінкая. Пры затрыманні ён аказаў актыўнае супраціўленне і стрэліў з абрэза паляўнічага ружжа ў жывот камандзіру 3-й групы СОБРа Б., 1979 года нараджэння, нанёсшы яму цяжкае раненне брушной поласці. Супрацоўнік СОБРа быў змешчаны ў шпіталь МУС, дзе яму зроблена аперацыя. Стан яго працягвае заставацца цяжкім.

Паводле звестак прэс-службы пракуратуры горада Мінска, пракуратурай Фрунзенскага раёна сталіцы 22 верасня па гэтым факце была ўзбуджаная крымінальная справа, якая аб'яднаная з раней узбуджанымі крымінальнымі справамі аб разбоі і аб наўмысным забойстве, ва ўчыненні якога таксама падазраецца грамадзянін Літвы.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Злачынствы кожныя 5 хвілінаў

Паводле звестак міністэрства ўнутраных справаў, у студзені - жніўні гэтага года ў Беларусі зарэгістравана 74.389 злачынстваў. Гэта на 13,3% менш за паказчык 8 месяцаў мінулага года. Гэта азначае, што калі летась у краіне злачынствы ўчыняліся кожныя 4 хвіліны 6 секундаў, то сёлета — кожныя 4 хвіліны 42 секунды.

Паводле інфармацыі МУС, на 4,4% менш зафіксавана забойстваў і замахаў на забойства, на 6,2% — кватэрных крадзяжоў, на 7,2% — усіх відаў крадзяжоў, на 14,4% — хуліганскіх дзеянняў, на 20% — згвалтаванняў і замахаў на згвалтаванне. У той жа час на 1,1% павялічылася колькасць зарэгістраваных выпадкаў наўмыснага прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў, на 3,1% — махлярства, на 4,9% — злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, на 10,9% — хабарніцтва.

За 8 месяцаў гэтага года выяўлены 36.073 асобы, учыніўшыя злачынствы, з іх непаўнагадовых — 4.121, жанчын — 4.619. 17.373 чалавекі (48,2%) на момант учынення злачынства нідзе не працавалі і не вучыліся.

Прыкметна знізілася раскрыццё злачынстваў — з 69,6% у студзені-жніўні мінулага года да 60,4% у студзені-жніўні сёлета.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

СЕЦІВА

## Наўздагон за інтэрнэтызацыяй

Новы інтэрнэт-клуб пачаў дзейнічаць у мінскім бізнес-цэнтры «XXI стагоддзе». Паводле інфармацыі адміністрацыі бізнес-цэнтра, клуб абсталяваны найноўшымі камп'ютэрамі на базе працэсараў *Pentium III-933*.

Для паўнавартаснай работы ў інтэрнэце паслугі па доступе ў глабальную камп'ютэрную сетку забяспечаныя сэрвіснай падтрымкай. Так, проста са свайго працоўнага месца наведвальнік можа адправіць для друку любы файл, нават значны па аб'ёме, і забраць раздрукоўкі ў сеткавым друкарным салоне, размешчаным у будынку бізнес-цэнтра.

Кошт арэнды камп'ютэра з выхадам у інтэрнэт складае 1.380 рублёў за гадзіну. Акрамя паслугаў па інтэрнэт-злучэнні, прапануецца таксама арэнда камп'ютэраў без выхаду ў інтэрнэт коштам 500 рублёў за гадзіну.

Сёння ў Беларусі налічваецца толькі каля 50 тысяч карыстальнікаў сеткі інтэрнэт. Па ўзроўні доступу ў інтэрнэт Беларусь адстае ад усіх краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (за выключэннем Албаніі).

**Аляксей АРЭШКА**



ЭКАЛОГІЯ

## Дзе ў Мінску жыць здаравей?

Бліжэйшым часам спецыялісты санітарна-эпідэміялагічнай службы Мінска зоймуцца вывучэннем стану навакольнага асяроддзя, які склаўся ў розных раёнах горада, і таго, якой рызыцы падвяргаюць сваё здароўе менчукі, пражываючы ў экалагічна неспрыяльных раёнах. Прасцей кажучы, у якім раёне сталіцы больш шанцаў захварэць на рак, а ў якім — на сэрца.

Паводле словаў Фёдара Германовіча, галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Мінска, вынікі гэтых даследаванняў лягуць у аснову планавання горада. Але масавых перасяленняў у больш чыстыя зоны чакаць не варта, бо такіх «шкодных для жыцця» раёнаў мяркуецца выявіць вельмі шмат.

Першыя такія дадзеныя чакаецца атрымаць праз паўтара года, але на міграцыю насельніцтва яны наўрад ці паўплываюць.

І прычына не толькі ў адсутнасці фінансавых магчымасцяў змяніць месца жыхарства. Проста большасць насельніцтва абыякава ставіцца да свайго здароўя. Выключэнне складаюць, па словах галоўнага ўрача Рэспубліканскага цэнтра здароўя Андрэя Секача, толькі 10-15% насельніцтва, якія прыслухоўваюцца да парадаў урачоў.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

## Уличный Лукашенко вдвое дешевле




Если минский главпочтамт торгует почтовыми марками с изображением Александра Лукашенко по розничной цене в 143 рубля, то в киоске «Белпочты» на проспекте Скорины у здания того же почтамта они стоят всего 65 рублей.

Дежурный администратор почтамта заявила, что киоск «Белпочты» — это совершенно другая епархия, а вообще во всем виновата «марбаза» (марочная база), которая устанавливает такие разные цены.

Между тем это не единственное обстоятельство, удивляющее в Минске иностранных туристов-филателистов. Марка с Лукашенко продается не сама по себе, а в лучших советских традициях — с нагрузкой в виде двух других марок, на которых изображены нынешние герб и флаг РБ.

Кроме того, год выпуска персональной марки написан весьма мелкими цифрами над левым ухом А.Лукашенко — «1996», зато гораздо более крупным шрифтом выведено «2500». Некоторые туристы, по свидетельству очевидцев, задают вопрос: «Это тот год, до которого он собирается править?»

Продавцы марочной продукции иногда отвечают утвердительно — ведь иностранцу не объяснишь, что это старая, доденоминационная цена, вследствие чего Лукашенко должен стоить только 2 с половиной рубля.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

## Пераслед за «ліпавыя» подпісы

Узбуджаная крымінальная справа па факце службовага падлогу, учыненага прадстаўнікамі ініцыятыўнай групы былога прэтэндэнта ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, прадпрымальніка Юрыя Данькова. Пра гэта паведаміла прэс-служба пракуратуры г. Мінска 24 верасня.

Справа ўзбуджаная па артыкуле 427 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (службовы падлог). Гэтыя дзеянні, у выпадку прызнання віны, караюцца штрафам або пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады ці займацца пэўнай дзейнасцю, або папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або абмежаваннем свабоды на той жа тэрмін, або пазбаўленнем волі на тэрмін да двух гадоў.

Матэрыялы для правядзення папярэдняга расследавання накіраваны ў пракуратуру Цэнтральнага раёна горада Мінска.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## О задержании наркоторговцев

19 сентября сотрудники КГБ изъяли крупнейшую за последнее время партию кокаина – 2,8 кг.

Была получена информация о том, что в одной из ячеек автоматической камеры хранения железнодорожного вокзала Минска находится крупная партия наркотиков. При вскрытии ячейки сотрудники спецслужбы нашли пустой чемодан, между стенками которого был спрятан кокаин. Наркотик был изъят из тайника и заменен обычной мукой, а внутренние стенки чемодана обработаны невидимой при обычном освещении люминесцентной краской.

Уже через несколько дней ячейку вскрыла пожилая женщина. Забрав чемодан, она села на поезд, следующий в Гомель, где и передала «посылку» получателю. Им оказался гражданин Нигерии Осуджи Раймонд Ннадози.

Наркодилер был задержан сотрудниками Управления по борьбе с незаконным оборотом наркотиков и бойцами группы «Альфа». В ходе осмотра квартиры оказалось, что чемодан и находящийся в нем тайник – вскрыты, а «паркотик» спрятан под кровать. Руки нигерийца и его жены были покрыты уличающей краской. Установлено, что наркотик предназначался для дальнейшей переправки в Москву. Нигерец и его жена задержаны и помещены в СИЗО КГБ.

**ЦИОС КГБ РБ**

# Прызначаны распродаж Беларусі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Нагадаем, што калі ў Беларусі праводзілася гэтак званая «чэкавая прыватызацыя», беларускія грамадзяне атрымалі ганаровае права завалодаць акцыямі выбітных прадпрыемстваў краіны накшталт «перасоўнай механізаванай калоны №70» альбо Кобрынскага кансервавага завода. Усё сапраўды лепшае пакінула сабе дзяржава – маўляў, каб не дасталося замежніку. У якасці адмоўнага прыкладу прыводзілася сітуацыя ў Расіі – як не трэба было рабіць прыватызацыю.

Але цяпер сітуацыя змянілася, і Лукашэнка толькі рады ахвяраваць беларускай прамысловасцю на карысць расіянаў. Бо вельмі ўжо хочацца пабыць «нумарам першым» у адной асобна ўзятай краіне. Ён не ўсведамляе – дакладней, ягоныя мазгі проста адмаўляюцца ўсведамляць, – што Расія выкарыстоўвае яго ў якасці «шасцёркі» альбо «засыльнага казачка».

Расіі Лукашэнка вельмі выгадны. Сваімі дзеяннямі ён адсек магчымых беларускіх канкурэнтаў – іх проста не існуе, бо не існуе сапраўднага рынку. Ад барацьбы за беларускія прадпрыемствы, з іншага боку, адсечаныя і заходнікі. Не маючы надзейных гарантыяў для сваіх інвестыцыяў, яны ці проста не прыходзяць, ці прыходзяць цішком, як, прыкладам, *Ford*.

Дзякуючы эканамічнай палітыцы Лукашэнкі практычна ўсе беларускія прадпрыемствы адчуваюць моцны недахоп капіталаўкладанняў. Па некаторых ацэнках, зношанасць абсталявання складае да 80%, а гэта значыць, што хутка ў Беларусі не будзе што вырабляць. Да дзвюх трацінаў беларускіх прадпрыемстваў – стратныя.

У такіх умовах расійскі капітал атрымлівае цудоўную магчымасць дыктаваць свае ўмовы Беларусі. Расіяне сапраўды прыйдуць на беларускі рынак – але атрымаюць пры гэтым такія пасламенні і льготы, якія і не сніліся *Ford*'у. А той, як вядома, іх мей больш чым дастаткова.

У бізнесе існуе такі «забаронены» прыём, які можна аднесці да несумленнай канкурэнцыі: у кампанію, якую хоча за капейкі набыць іншая, засылаецца «агент». Ён пачынае кіраваць «ахвярай», і ў самыя кароткія тэрміны даводзіць яе сваім кіраўніцтвам да такога гаротнага стану, што гаспадары самі гатовыя проста аддаць яе. Няважна, каму меланіта. І тут з'яўляецца на белым кані тая самая кампанія, якая і засылала «агента». І прапаноўвае набыць «нявдачніцу» і нават даць за яе пару цэнтаў. Эканомія – неверагодная. Праўда, з маральнымі прынцыпамі тут не ўсё ў парадку.

Лукашэнка вельмі нагадвае такога «засланца»: давёўшы беларускія прадпрыемствы да галечы, ён пачынае радасна прадаваць іх Расіі. Амаль што задарма. Праўда, маральныя прынцыпы церпяць. Затое прыбытак які!

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



Наваполацкае ВА «Нафтан»

САВЕТ ЕЎРОПЫ

## ПАСЕ прызнала парушэнні

Выбары ў Беларусі прайшлі з парушэннем міжнародных стандартаў. Пра гэта гаворыцца ў справаздачы дэлегацыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ), якая ажыццяўляла назіранне за ходам прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

Як паведаміў БелаПАН дэпутат Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Навасяд, які знаходзіцца ў Страсбургу ў складзе дэлегацыі Нацыянальнага сходу Беларусі, гэтая справаздача была прадстаўленая 24 верасня кіраўніком місіі назірання ПАСЕ Стэфанам Горысам на пасяджэнні ліберальнай групы Парламенцкай асамблеі. Пасяджэнне групы праходзіла ў рамках сесіі ПАСЕ, якая сёння адкрылася.

У той жа час, паводле словаў Навасяда, у справаздачы прагучала меркаванне «аб неабходнасці спыніць палітыку ізаляцыі Беларусі і інтэграваць яе ў сістэму агульнаеўрапейскіх каштоўнасцяў». У сваім дакладзе Стэфан Горыс прапанаваў Парламенцкай асамблеі развіваць адносіны з афіцыйнымі беларускімі ўладамі — выканаўчай і заканадаўчай, а таксама працягваць працаваць з грамадзянскімі інстытутамі.

Нагадаем, што ў 1997 годзе статус спецыяльна запрошанага для Беларусі ў ПАСЕ быў прыпынены. У сувязі з гэтым беларускія парламентарыі не бяруць удзелу ў пленарных пасяджэннях ПАСЕ, але могуць сустракацца з еўрапейскімі парламентарыямі ў кулуарах, а таксама прысутнічаць на пасяджэннях палітычных групаў і фракцыяў. Пытанне аб аднаўленні статусу спецыяльна запрошанага для Беларусі падчас восеньскай сесіі абмяркоўвацца не будзе.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## Савет міністраў амаль не пацярпеў

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Міністрам па падатках і зборах прызначаны Канстанцін Сумар, які раней узначальваў названы дзяржкамітэт.

Пасады ў новым урадзе атрымалі два памочнікі прэзідэнта - Аляксандр Кулічкоў і Аляксандр Шпілеўскі. Першы прызначаны міністрам гандлю, другі – старшынёй Дзяржаўнага мытнага камітэта.

Што тычыцца пасады кіраўніка ўрада, то пакуль яго абавязкі выконвае былы прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын. Хутчэй за ўсё, ён захавае гэтую пасаду. Ва ўсялякім выпадку, як заявіў Аляксандр Лукашэнка 24 верасня журналістам некаторых дзяржаўных СМІ, цалкам верагодна, што на пасаду кіраўніка ўрада зноў будзе рэкамендаваны Уладзімір Ярмошын. Канчатковае ж рашэнне наконт гэтага будзе прынята пасля фарміравання ўрада і пачатку працы парламента (сесія адкрываецца 2 кастрычніка), які, згодна з Канстытуцыяй, павінен зацвердзіць кандыдатуру на пасаду прэм'ер-міністра.

**Наталля КУЛАГІНА**

СТРАТЭГІЯ

## Лукашенко пресек наступление арабов

Саудовская Аравия стремилась на белорусский рынок мобильной связи.

Если бы не Александр Лукашенко, в Минске никто и не узнал бы, что тендер на вторую лицензию оператора мобильной связи стандарта *GSM* в стране получило российское АО «Мобильные Телесистемы» (МТС).

Министерство связи Беларуси хранило процесс проведения тендера в такой тайне, что многие начали вообще сомневаться в его завершении. Правда, минсвязи недавно пообещало, что победитель станет известен сразу после инаугурации А.Лукашенко, которая состоялась 20 сентября. Как именно связаны тендер с инаугурацией, почтовое ведомство не пояснило, если не принимать всерьез его заявление о том, что «подразделения и руководство минсвязи будут обеспечивать различными, в том числе и специальными, видами телекоммуникационного сервиса и связью проведение церемонии инаугурации».

Однако сам А.Лукашенко уверен, что это был «открытый и гласный тендер», на котором ему особенно «понравилась борьба и конкуренция». Примечательно, что в конкуренции участвовали питерский губернатор Владимир Яковлев и московский мэр Юрий Лужков, которые соответственно в конце августа и начале сентября приезжали в Минск и вовсю демонстрировали предвыборную поддержку А.Лукашенко. Очевидно, Ю.Лужков поддержал белорусского президента позже – ближе к выборам – и лучше.

В итоге этой борьбы стоимость лицензии выросла вдвое (по сравнению с первоначальной в сумме 5 миллионов долларов), сообщил А.Лукашенко. Как могла измениться стоимость лицензии во время тендера, он не рассказал. Между тем, еще 17 августа минсвязи Беларуси объявило, что «скорее всего, победителем станет МТС», хотя и признало, что «предложенные финансовые, технические и тарифные условия практически в одинаковой степени выполнили три конкурсанта — фирмы из России (Москва), Австрии и Саудовской Аравии».

Белорусские связисты не постеснялись официально сообщить месяц назад, что «российская компания МТС имеет серьезную поддержку со стороны министра связи РФ Леонида Реймана, представителей крупного московского бизнеса, Администрации президента и правительства Беларуси».

Первоначально в тендере принимали участие пять компаний, из них три российские: ООО «Альфа-Эко Телеком», ЗАО «Северо-Западный *GSM*», МТС, а также австрийская *Dr.Karl J.Pisec Export-Import-Gmbh* и компания из Саудовской Аравии *Saudi Odger Ltd*. Но на втором этапе среди участников тендера остались МТС, «Северо-Западный *GSM*» и *Saudi Odger Ltd*.

Сейчас в Беларуси работают две компании, оказывающие услуги мобильной связи — СП «Белсел» (стандарт *NMT-450*) и СП «Мобильная цифровая связь» (стандарт *GSM*, торговая марка *VELCOM*). Белорусской стороне принадлежит в уставном фонде каждого СП по 51%. Число абонентов СП «Белсел» составляет около 18 тысяч, «Мобильной цифровой связи» — превышает 75 тысяч. Аналоговый стандарт СП «Белсел» иногда работает лучше, чем вроде бы более качественный *GSM*. Например, в минском микрорайоне Кунцевщина мобильные телефоны от *VELCOM* работают очень плохо, а во время президентских выборов 9 сентября в центре города они вообще не работали.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

# Папа приехать к батьке не может

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Однако, как известно, вид этот был изрядно подпорчен после 1996 года, когда, вопреки мнению международного сообщества, в Беларуси была произведена реконструкция власти. Единоличным правителем стал батька, коим себя стал нередко называть Лукашенко.

Фактически оказавшись в изоляции, Беларусь уже не могла претендовать на роль места исторической встречи Московского патриарха и Папы Римского. Да и в отличие от других православных церквей, Белорусская православная церковь и ее Экзархат накрепко связаны с Московской патриархией. Святейший экзарх всея Беларуси митрополит Филарет является членом Синода РПЦ.

Так что следовать примеру грузинской и Апостольской армянской церкви, которая по своим обрядам ближе к православию, православные иерархи Беларуси не могут. Можно отметить, что после Казахстана, где двумя крупнейшими конфессиями являются мусульмане и православные, Папа приедет в Армению.

Не секрет, что накануне приснопамятного референдума 1996 года на своих совещаниях православные иерархи активно поддержали президентскую Конституцию, сумев в качестве откупного ввести в нее приемлемые для себя положения. Правительственный комитет по делам конфессий стал по сути одним из отделов Минского епархиального управления.

В связи с этим показательной стала история с фильмом белорусского режиссера Михаила Ждановского «Мир всем». Правительственные чиновники после премьеры фильма решили положить его на полку. По некоторым данным, православным иерархам не понравилось в фильме то, что один из героев фильма, совершив преступление, раскаялся и перешел из православной в другую христианскую веру. По словам режиссера, с такой цензурой ему не приходилось сталкиваться даже в советские времена.

Кстати, в этом фильме в положительном свете представлен Лукашенко, декларирующий право гражданина выбирать любой храм. По мнению специалистов, философия фильма «Мир всем» значительно разнится с той оголтелой пропагандой, якобы в пользу православных ценностей, которую порою демонстрируют белорусское радио и телевидение, другие государственные СМИ.

Несмотря на деятельную государственную поддержку православной церкви, которую явно и неявно осуществляет правящий режим, социологами констатируется массовый исход верующих в Беларуси из православной в другие христианские церкви. Конечно, процесс этот носит неоднозначный характер. Но многие наблюдатели полагают: складывающаяся ситуация в этой деликатной сфере свидетельствует о том, что закоснелость православных священников уступает активности и гибкости католических, а также священнослужителей других конфессий.

В правящих кругах Беларуси есть деятели, которые пытаются ответить на мирную экспансию Ватикана православным фундаментализмом. Нередко стращают мирных граждан и угрозой полонизации, и кознями иезуитов. Одним из проявлений такого фундаментализма некоторые считают практику строительства в армейских частях православных храмов.

В то же время в своих выступлениях Лукашенко неоднократно подчеркивал, что Беларусь – многоконфессиональная страна. Так что неравные условия для верующих солдат и демонстративная набожность ряда командиров могут восприниматься противоречащими белорусским конституциям всех изданий.

И вряд ли культивируемый властью приоритет только православных ценностей среди солдат, других граждан Беларуси будет способствовать веротерпимости. Такой подход может способствовать и росту религиозного экстремизма. Следует отметить, что в соседней Польше в армии служат наряду с католическими и штатные православные священники.

Можно предположить, что в связи с неоднозначным отношением мирового сообщества к итогам президентских выборов в Беларуси кое-кто захочет реанимировать идею приглашения понтифика посетить Беларусь. Ведь, в конце концов, решился же Папа приехать к Фиделю Кастро, которого американцы также «любят», как и Лукашенко.

Но, похоже, нынешнего Папу не суждено будет увидеть на белорусской земле. И не только потому, что РПЦ противится его появлению на своих канонических землях. Папа является духовным наставником более чем миллиарда землян. А среди них есть и те, кто доверяет своим политическим лидерам, продолжающим питать недоверие к нынешнему белорусскому правителю. Поэтому Папа не может себе позволить приехать в нынешнюю Беларусь. По некоторым данным, после Армении он намерен положительно ответить на приглашение посетить Азербайджан.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# Зручны чыноўніку статус правінцыі

## Грамадская крытыка для чынавенства – як мёртваму прыпарка

*Пра жахлівы стан справаў з аховай нацыянальнай спадчыны не раз ішла гаворка на старонках перыядычнага друку. На адрас дзяржаўных органаў, ад якіх непасрэдна залежыць лёс помнікаў гісторыі і культуры, выказана мноства крытычных заўвагаў. Але ўся тая крытыка, а з ёю і спробы ўнясення прапановаў па выпраўленні становішча, для адказных чыноўнікаў, як шамаценне травы. Высокаму кіраўніцтву краіны нават няўцям, што гэтакая пазіцыя ў вырашэнні важных пытанняў яшчэ больш дыскрэдытуе дзяржаўную ўладу, а таксама выяўляе характэрныя рысы беларускага менталітэту.*

Чарговым сведчаннем поўнай няздольнасці ўладаў справіцца з аховай спадчыны стаў падрыхтаваны да падпісання кіраўніком урада праект пастановы Савета міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб статусе гісторыка-культурных каштоўнасцяў помнікаў гісторыі і культуры, прынятых пад ахову дзяржавы да 1 студзеня 1993 г.». Мала сказаць, што гэты адметны сваім зместам дакумент рыхтаваўся не толькі без удзелу грамадскасці, але пра яго нічога невядома і спецыялістам, якія маюць шматгадовы вопыт у рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры. У падрыхтаванай інкогніта дзяржаўнай паперы адным махам і без аніякіх абгрунтаванняў скасоўваецца шматгадовая праца многіх прафесійных калектываў і сотняў актывістаў беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Не прыходзіцца сумнявацца ў наўмысным характары гэтага дакумента.

Паводле праекта пастановы, страчвае сілу пункт 17 пастановы Савета міністраў БССР ад 1 кастрычніка 1984 года № 350, якім надаваўся статус афіцыйнага дакумента па пытаннях аховы помнікаў гісторыі і культуры падрыхтаванаму ў 80-я гады калектывам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай Акадэміі навук і выпушчанаму ў свет выдавецтвам «Беларуская савецкая энцыклапедыя» шматтомнаму «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларускай ССР».

Таксама ж безапеляцыйна вырашана адмяніць спісы помнікаў мясцовага значэння, якія былі зацверджаныя дваццацю шасцю рашэннямі абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў. Рука невядомага чыноўнага творцы дзёрзка замахнулася на добры **дзесятак тысяч помнікаў гісторыі і культуры, якія амаль чвэрць стагоддзя знаходзіліся пад аховай дзяржавы і нанясенне страты якім каралася ці, прынамсі, павінна было карацца паводле адпаведнага заканадаўства**.

Не менш гвалтоўна вырашана абысціся і з пастановай Савета міністраў БССР ад 18 лютага 1988 года № 32, якой зацверджаныя спісы помнікаў гісторыі, археалогіі, мастацтва, архітэктуры і горадабудаўніцтва рэспубліканскага значэння. **Праектам новай пастановы мяркуецца аднесці іх да разраду гісторыка-культурных каштоўнасцяў катэгорыі «3».** Паводле закона «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» гэтыя аб'екты «характарызуюць адметныя рысы гісторыка-культурнай спадчыны асобных рэгіёнаў рэспублікі», што адпавядае помнікам мясцовага значэння згодна з прынятай яшчэ ў савецкія часы класіфікацыяй. Такім чынам, **вартасць 3.496 аб'ектаў пакуль яшчэ рэспубліканскага значэння будзе без абмеркавання, без аргументаў, па нечыйму «хотению» і ўрадаваму «велению», быццам бы у той казцы пра Ямелю-дурака, істотна прыніжанай**. У адным шэрагу, напрыклад, з нейкай шэраговай будыніной, зрастыражыраванай па тыпавым праекце невядомага архітэктара, апынуцца і унікальныя, непаўторныя помнікі рэнесансу, барока, красіцызму, неаготыкі, гістарычныя цэнтры Гродна, Магілёва, Пінска, Кобрына, Віцебска, Брэста. У 80-я гады было зафіксавана ўсяго 415 падобных аб'ектаў архітэктуры і горадабудаўніцтва рэспубліканскага значэння.



Праект прапанаванай для падпісання пастановы Савета міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб статусе гісторыка-культурных каштоўнасцяў помнікаў гісторыі і культуры, прынятых пад ахову дзяржавы да 1 студзеня 1993 г.» **падмяняе сабой дзеючы закон** «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», якім вызначаныя дзеянні па ўліку аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны і складанні Дзяржаўнага спіса гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь. Варта нагадаць, што гэты спіс неабходна было скласці да 1 студзеня 1993 года. **Аднак на сённяшні дзень у яго занесена толькі каля паўтысячы гісторыка-культурных каштоўнасцяў з амаль 16 тысяч помнікаў гісторыі і культуры, прынятых пад ахову дзяржавы** паводле пастановы Савета міністраў 1988 года і дваццаці шасці рашэнняў абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў і зафіксаваных у васьмі тамах «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларускай ССР».



Такім чынам, можна зрабіць выснову, што **нехта імкнецца пазбегнуць адказнасці за невыкананне прадпісаных законам дзеянняў** і апраўдаць тым самым многія парушэнні заканадаўства, якія неаднаразова назіраліся цягам апошніх дзесяці гадоў.

Нічога неверагоднага ў гэтых абставінах няма. **За апошнія гады грамадскасць неаднаразова была сведкам парушэнняў прававых нормаў менавіта з боку ўладных структураў.** Неверагодным з'яўляецца якраз тое, што ў высокіх урадавых кабінетах не знайшлося хаця б колькі дасведчанага чыноўніка, здольнага прадухіліць не тое, каб парушэнне закона, але вырашыць пытанне ўліку аб'ектаў спадчыны паводле заканадаўства. Гэтым дзеючая ў Беларусі ўлада ў чарговы раз засведчыла сваю поўную некампетэнтнасць у вырашэнні элементарных для сучаснага грамадства пытанняў і нечым упадобілася афганскаму рэжыму талібаў, які замахнуўся на спадчыну ўсяго чалавецтва, знішчыўшы тысячагадовыя статуі Буды.



Сітуацыя з аховай помнікаў на справе нават больш горшая, чым можа падацца. Бо кожная страта не паддаецца аднаўленню. Дзеля прыкладу можна назваць сотні помнікаў гісторыі і архітэктуры, страчаныя за апошнія два стагоддзі праз адпаведныя намаганні царскай, а потым савецкай улады, якія кіраваліся ідэалагічнымі задачамі. Сённяшняе вынішчэнне нацыянальнай спадчыны працягвае тую ж традыцыю, азмрочаную зацікаўленасцю дробных дзялкоў у выкарыстанні помнікаў у асабістых мэтах. Праект пастановы здымае адказнасць з дзяржавы і спрошчвае набыццё старадаўніх будынкаў розным фірмам.

Па сутнасці, небагатую на захаваныя помнікі Беларусь жадаюць абрабаваць да ніткі.

Няма сэнсу паўтараць адрасы знішчаных ці скалечаных помнікаў гісторыі і культуры па розных гарадах і мястэчках. Працэс ціхага руйнавання набыў агульнарэспубліканскі характар. Сярэдняе чынавенства карыстаецца недасведчанасцю і малакультурнасцю вышэйшых чыноўнікаў дзяржавы і вырабляе з помнікамі, што захоча. Паніжэнне іхнага статусу дазволіць паскорыць гэты працэс і выйсці сухімі з любой непрыемнасці.

Замест таго, каб упрыгожваць краіну, яе на вачах пазбаўляюць аздобы.

Творцы такіх пастановаў упэўненыя, што наверсе ўлады сядзяць такія дурні, якія падпішуць любы праект, бо нічога не цямяць. А не цямяць, бо нікога не слухаюць, а крытыку ўспрымаюць як абразу свайму розуму. Вось у гэтых адносінах справе аховы помнікаў гісторыі і культуры цяжка надаць пазітыўны характар.

Тое, што паказана на ілюстрацыях, было на нашай зямлі, але знішчана назаўжды. І кожны год страты ўзрастаюць, а нашы гарады і мястэчкі бяднеюць на адметнасці. Шэры чыноўнік жадае шэрасці для ўсіх.

**Іван ТАЛЫГА**



**MEMORIA**

## Музей Францішка Багушэвіча ў Літве

Вільнюская арганізацыя грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ) звяртаецца да грамадскасці за дапамогай у арганізацыі Літаратурнага музея Францішка Багушэвіча ў Літве.

Як паведаміў БелаПАН старшыня арганізацыі Юрый Гіль, музей будзе размяшчацца на радзіме паэта, празаіка, публіцыста і народнага юрыста — у памяшканні Савічунскай бібліятэкі ў Вільнюскім раёне. Па задуме арганізатараў музея, штогод у дзень нараджэння Багушэвіча тут будзе праводзіцца свята паэзіі. Юрый Гіль звяртаецца да літаратараў, краязнаўцаў і вучоных з просьбай прысылаць у штаб-кватэру арганізацыі (*Vilnius m, q-ve Architekty 23-79, Gil Juri*) рэчавыя, пісьмовыя і выяўленчыя матэрыялы, звязаныя з дзейнасцю паэта і нацыянальнай гісторыяй.

Пачынальнік новай беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч вучыўся ў Віленскай гімназіі і на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, адкуль быў выключаны за адмову прыняць новыя універсітэцкія правілы. Удзельнічаў у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 года супраць рускага царызму і быў паранены ў адным з баёў. Пасля вучобы ў Нежынскім юрыдычным ліцэі працаваў следчым у гарадах Расіі і Украіны, а з 1884 года — адвакатам судовай палаты ў Вільні. З 1898 года жыў у Кушлянах (цяпер Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці), а пахаваны ў Жупранах (Ашмянскі раён, Гродзенская вобласць). Вядомы дзеяч беларускага адраджэння, паэт шмат зрабіў для развіцця нацыянальнай літаратурнай мовы, абагачэння і ўдасканальвання беларускай паэтыкі. Імя Багушэвіча прысвоенае Ашмянскаму краязнаўчаму музею, у Жупранах пабудаваны помнік паэту, мінская бібліятэка № 14 носіць яго імя.

**Марат ГАРАВЫ**

СПОРТ

## Футбольны гандаль

21-гадовы нападаючы барысаўскага футбольнага клуба БАТЭ і маладзёжнай зборнай Беларусі Віталь Кутузаў падпісаў кантракт са знакамітым італьянскім клубам «Мілан». Пра гэта паведаміў БелаПАН па тэлефоне з Італіі прэзідэнт БАТЭ Анатоль Капскі. Юрыдычнае афармленне дакументаў адбылося ўвечары 24 верасня пасля паглыбленага медыцынскага абследавання футбаліста. Сума і тэрмін кантракта пакуль не паведамляюцца.

Прынцыповая дамоўленасць аб пераходзе Кутузава ў «Мілан» была дасягнутая 20 верасня пасля матча паміж гэтымі камандамі ў Мінску.



І яшчэ адзін футбаліст барысаўскага БАТЭ бліжэйшым часам можа апынуцца ў італьянскім клубе — гэта 25-гадовы абаронца Віталь Рагожкін. Як паведаміў Анатоль Капскі, размова ідзе аб клубе з серыі «В» (аналаг другога дывізіёна), аднак яго назва пакуль не паведамляецца. Не выключана, што футбаліст будзе здадзены ў арэнду да канца сезона. Верагоднасць такога пагаднення (незалежна ад яго зместу) прэзідэнт БАТЭ ацэньвае ў 99 працэнтаў. Рагожкін павінен вылецець у Італію для канчатковых перамоваў: купля, продаж, здача і ўзяцце ў арэнду ігракоў клубамі гэтай краіны дазволеныя да 30 верасня.

І Кутузаў, і Рагожкін не выйдуць на поле ў складзе БАТЭ 27 верасня ў матчы ў адказ супраць «Мілана» і рамках 1/64 фіналу розыгрышу Кубка УЕФА (у першай сустрэчы, як вядома, мацнейшымі былі італьянцы — 2:0).

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

КУЛЬТУРА

## Международный фестиваль апельсинов

В середине ноября в провинции Цзянси на востоке Китая пройдет Первый Международный фестиваль апельсинов. Устроители этого необычного праздника ожидают, что в нем примут участие представители фирм из основных стран-производителей этих экзотических фруктов. Экспозиция разместится в городе Наньфэн, где апельсины выращиваются уже на протяжении 1.300 лет, сообщили на пресс-конференции во вторник организаторы фестиваля. Лучшие плоды из Наньфэна поставлялись к императорскому столу еще со времен династии Тан, которая начала царствовать в 618 году. В настоящее время апельсины из Наньфэна экспортируются в семь стран мира и пользуются там большим спросом. Цель цитрусового фестиваля для китайских производителей апельсинов — установление деловых контактов со своими коллегами из зарубежных стран. Организаторы заявляют, что программа фестиваля, кроме выставки фруктов, насыщена спектаклями и художественными представлениями, посвященными апельсинам.

**Цин КОПИН**

# 1700 лет Армянской церкви

*Согласно Священному Преданию Армянской Церкви, первые семена христианства на земле Армении были посеяны апостолами Фаддеем и Варфоломеем.*



Важнейшее в истории армянского народа событие — рождение Армянской Церкви — произошло в 301 году. Первостепенную роль в принятии христианства сыграли Григорий Просветитель Армении, ставший первым Католикосом Армянской Церкви (302-326), и царь Армении Трдат III (287-330).

В 287 году Трдат прибыл в Армению в сопровождении римских легионов, чтобы вернуть отцовский престол. В поместье Ериза он совершал обряд жертвоприношения в капище языческой богини Анапит. Однако один из сподвижников царя, Григорий, будучи христианином, отказался принести жертву идолу. Григория заключают в Арташатскую темницу, предназначенную для «смертников». В том же году Трдат издает два указа: в первом из них повелевается арестовывать всех находящихся в пределах Армении христиан «с конфискацией их имущества», а во втором — казнить всех укрывающих христиан.

Интересно, что гонения на христиан привели Трдата к тяжелому нервному заболеванию. Тогда сестра царя Хосровадухт стала видеть один и тот же сон, в котором ей сообщалось, что Трдата может исцелить только заключенный в темницу Григорий.

Григорий, чудом оставшийся в живых, был освобожден из заключения и торжественно принят в Вагаршапате. Он сразу предал земле мощи великомучеников, убитых по приказу Трдата, и, после 66-дневной проповеди христианства, исцелил царя, который после этого, вместе со всем двором, принял крещение и провозгласил христианство государственной религией Армении.

Позже явившийся Григорию ангел указал, где поставить православный храм, который был назван «Эчмиадзин», что в переводе с армянского означает «сошел Единородный» (т.е. Иисус Христос).

В 387 году Армения была разделена между Византией и Персией. Именно на период этих тяжелейших испытаний приходится «золотой век» армянской письменности. Христианское богослужение в Армении совершалось на двух языках: греческом и сирийском. Естественно, что многое было непонятно народу, хотя во время богослужения специальные переводчики переводили отрывки из Священного Писания на армянский язык. Но «чтобы христианство овладело душой и сознанием народа, необходимо его звучание на родном языке», — отчетливо осознавал архимандрит Месроп Маштоц. Маштоц мечтал о создании армянского алфавита. После продолжительной работы и молитвы, Божественным откровением, св. Месроп в 406 году создает армянский алфавит.

Главы христианских Церквей из 25 стран принимают участие в торжествах, посвященных 1700-летию провозглашения христианства государственной религией Армении. В Первопрестольном Святом Эчмиадзине вечером в субботу происходило таинство освящения святого миро. Эта духоносная и необыкновенно красивая церемония особенно важна для Армянской Церкви, поскольку совершается один раз в 7 лет. В таинстве мироварения задействованы две основные святыни Армянской Церкви: копье Лонгина-сотника и десница Григория Просветителя. По преданию, святитель Григорий, устроив Армянскую Церковь, призвал к епископскому служению своего сына, Аростана-пустынножителя, а сам удалился в пустыню, где и преставился в 335 году. Десница и часть его святых мощей покоятся ныне в сокровищнице Эчмиадзинского кафедрального собора в Армении. По традиции Армянской Апостольской Церкви, сохраняющейся и поныне, этой десницей Верховный Католикос-Патриарх всех Армян благословляет святое миро во время мироварения.

По свидетельству же апостола Иоанна, один из воинов (римский центурион Лонгин) пронзил копьем ребро умершего на Кресте Иисуса Христа. Это копье было принесено в Армению апостолом Фаддеем. В средние века оно хранилось в монастыре Айриванк, который позднее был переименован в Сурб Гегард (Святое Копье). В настоящее время эта реликвия хранится в Святом Эчмиадзине. Копьем Верховный Католикос-Патриарх всех Армян освящает святое миро во время мироварения.

Армянская Апостольская Церковь имеет два патриархата — Иерусалимский и Константинопольский, а также епархии в Великобритании, Аргентине, Австрии, Австралии, Бразилии Болгарии, Венесуэле, Греции, Египте, Ираке, Иране, Канаде, Ливане, Румынии, Сирии, США, Уругвае и на территории СНГ.

Первопрестольный Эчмиадзин является духовным центром для 7 млн. армян, проживающих в Армении и за рубежом. В Эчмиадзине находятся кафедральный собор и резиденция Верховного Католикоса-Патриарха всех Армян Гарегина II. Другой иерархический престол Армянской Церкви — Киликийский католикосат во главе с католикосом Арамом I — находится в Антилиасе, под Бейрутом.

Несмотря на то, что к Киликийскому католикосату относится армянская диаспора (во много раз превосходящая по численности Армению), разбросанная по всему миру, в Армянской Церкви никогда не возникал вопрос о главенстве Эчмиадзинского престола.

**Мария СВЕШНИКОВА**

# Конец американского боевика

## *Террористы нанесли удар не только по Нью-Йорку и Вашингтону, но и по Голливуду. Кинематографу придется измениться*

*Творец «Брата» и «Брата-2» Сергей Бодров отреагировал на теракты в Америке самокритично: «Это все придумали мы, киношники: и как взрывается Пентагон, и как рушится Торговый центр, и как захватывать самолеты. Без кино этой трагедии просто бы не было. По горячим следам невольно думаешь, что такое кино надо запретить».*

Но уже появилось сообщение: *Warner Bros.* на неопределенный срок откладывает давно намеченный на начало октября выход блокбастера «Побочный ущерб», в котором Шварценеггер выслеживает и расправляется с очередными гнусными злодеями-террористами, взорвавшими его жену и детей.

Не повезло и высокотехнологичному фантастическому боевику «Человек-паук». Пока что *Sony Pictures Entertainment* объявила только о том, что решила не выпускать уже готовый рекламный ролик. В нем главный герой, чтобы поймать злодеев, растягивает гигантскую паутину между башнями Всемирного торгового центра. Надо понимать: невыход уже снятого блокбастера — это в первую очередь не жестокое разочарование его создателей или зрителей, а застрявшие в «неликвидах» вложения в десятки и сотни миллионов долларов. Стоимость высокобюджетного фильма соизмерима со стоимостью небоскреба. Захваченные самолеты не падали на Голливуд, но «черный вторник» нанес жесточайший удар и по самой известной американский индустрии тоже.

Начиная с 11 сентября 2001 года «Побочный ущерб», «Человек-паук» и сотни им подобных, находящиеся на разных стадиях производства и уже давно снятые, вплоть до «Кинг-Конга» и «Армагеддона», — уже никогда не смогут быть развлечением субботнего вечера. Смотреть на то, как благоустроенные удобные города крушатся, затапливаются, стираются с лица земли, а мужественные герои спасаются от стен огня, безумных маньяков и безжалостных чудищ, американцам отныне будет не забавно, а больно и стыдно («накаркал»).

В области культуры важнейший поворот очевиден. Раз искусство более чем грубо вторглось в жизнь и стало ею, то теперь эстетический интерес может представлять только обратный процесс: проникновение жизни в искусство. Тем более что изобретать ничего особо и не надо. Нас ждет расцвет, условно говоря, «модернизированной Догмы» а-ля «Танцующая в темноте»: простые человеческие истории, неторопливо, по законам классической дочеховской драматургии (несколько героев, несколько мест действия) изложенные незвездными актерами и красиво, заведомо неправдоподобно (мюзикл с танцующими рабочими) снятые. В «Танцующей» тоже есть убийство: но показано оно как что-то некрасивое, нелепое, уродливое. Как, собственно, оно и есть в жизни.

Идея носится в воздухе. Чтобы не углубляться в мало кому известные фестивальные просмотры, достаточно вспомнить недавнюю сенсацию — «Серебряный лев», отданный *за неделю* до «черного вторника» традиционной индийской мелодраме — но снятой в основном на ручную видеокамеру.

До сих пор катастрофы старались подавать в кино в помпезном стиле «последнего дня Помпеи» — будь то «Армагеддон» или «Перл-Харбор». В принципе, теперь, начиная с прошлого вторника, не так уж сложно представить себе боевик, снятый дрожащей ручной видеокамерой.

Изменения коснутся не только кино. Произошел и такой курьез: лос-анджелесской рэп-группе *The Coup*, заигрывавшей (не особо успешно в смысле популярности) с левацкой риторикой, пришлось спешно менять нарисованную еще в июне обложку их нового альбома: на ней был изображен... врыв башен Торгового центра. Причем, как оказалось, весьма похоже.

Теперь борцы с капитализмом вынужденно объясняются, что изображение было всего лишь символом, а теракты — страшная трагедия. В результате альбом выйдет вообще без рисунка. Ведь эти рэпперы, как и десятки им подобных, — не полоумные палестинцы, растопыривающие «виктори» перед западными телекамерами, а, в сущности, — нормальные американские ребята, и зла они никому не хотят. И, как и в случае со шварценеггеровским боевиком, у меня серьезные сомнения, что они вообще продолжат в дальнейшем свою словесную борьбу с капитализмом: это больше никому не интересно.

**Михаил ВИЗЕЛЬ**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1765 Нумар падпісаны ў друк 25/09/2001 (15:00) Наклад — 9.470